# Голас Радзімы

№ 34 (2072)
25 жніўня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Беларусь — рэспубліка спартыўная. Многія яе прадстаўнікі носяць ганаровыя званні чэмпіёнаў і рэкардсменаў свету. Але расціць чэмпіёнаў — не галоўная мэта. Асноўная ўвага надаецца развіццю масавай фізкультуры. І рэспубліка тут дамаглася пэўных поспехаў. Напрыклад, яе вопыт па развіццю фізкультурна-аздараўленчых комплексаў атрымаў шырокае распаўсюджанне па ўсёй краіне. Ды і па колькасці спартыўных збудаванняў, баз, стадыёнаў Беларусь займае адно з вядучых месцаў у СССР. Хаця, як вы бачыце на гэтым здымку, займацца спортам можна проста ў парку. Гросмайстар В. КУПРЭЙЧЫК дае сеанс адначасовай гульні ў шахматы ў парку імя Горкага ў Мінску.

Фота М. МІНКОВІЧА.

(Матэрыялы 8-й стар. прысвечаны поспехам беларускіх спартсменаў).

СХОДЫ

## У ГОНАР ГАДАВІНЫ

У Мінску адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў грамадскасці горада, прысвечаны 41-й гадавіне незалежнасці Індыі і 17-й гадавіне падпісання Дагавора аб міры, дружбе і супрацоўніцтве паміж СССР і Індыяй.

Даклад зрабіў першы намеснік міністра культуры БССР У. Гілеп. Перад прысутнымі выступіў старшыня зямляцтва індыйскіх студэнтаў у Мінску, студэнт БДУ імя У. І. Леніна Шарма Шыў Ом.

У рабоце сходу прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР В. Крыцкі, сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. Сырагіна.

ВІЗІТЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З ПЕРУ

Мінск наведала дэлегацыя Усеагульнай канфедэрацыі працоўных Перу на чале з віцэ-прэзідэнтам УКПП Хасэ Фігероа. Яна знаходзілася ў СССР па запрашэнню ВЦСПС. Дэлегацыя была прынята старшынёй Белсаўпрофа У. Ганчарыкам. У ходзе гутаркі госці былі інфармаваны аб дзейнасці прафсаюзаў рэспублікі ва ўмовах перабудовы.

У прагpаме знаходжання прадстаўнікоў УКПП—наведанне Мінскага гадзіннікавага завода, знаёмства з умовамі працы на гэтым прадпрыемстве, работай прафкома, сацыяльна-бытавымі аб'ектамі завода, а таксама агляд экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, паездка ў Хатынь і на Курган Славы.

КАНТАКТЫ

## ЗНАЁМСТВА З ВОПЫТАМ

У сталіцы рэспублікі знаходзілася дэлегацыя Канцылярыі Нацыянальнага сходу і Дзяржсавета Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам на чале з членам ЦК КПВ, членам Дзяржсавета, начальнікам Канцылярыі Ву Мао.

Члены дэлегацыі былі прыняты ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР, дзе іх азнаёмілі з дзейнасцю вышэйшага органа дзяржаўнай улады рэспублікі, расказалі аб савецкай выбарчай сістэме, рабоце народных дэпутатаў ва ўмовах перабудовы.

Напярэдадні члены дэлегацыі мелі сустрэчу ў Маскоўскім райвыканкоме, наведалі Мінскі камвольны камбінат, сустрэліся з землякамі, якія працуюць на гэтым прадпрыемстве. В'етнамскія госці зрабілі азнаямленчую паездку по гораду, пабывалі ў Хатыні і Доме-музеі І з'езда РСДРП, на ВДНГ БССР.

ПРАМЫЯ СУВЯЗІ



Падпісаны пратакол аб прамых навукова-тэхнічных і эканамічных сувязях паміж народным прадпрыемствам бялізнавага трыкатажу Фейнваш «Бруна Фрайтаг» горада Лімбах-Аберфрона (ГДР) і Віцебскім панчошна-трыкатажным камбінатам імя КІМ. Госці з ГДР азнаёміліся з тэхнічнай аснашчанасцю, асартыментам выпускаемай прадукцыі, умовамі працы і быту на беларускім прадпрыемстве.
НА ЗДЫМКУ: старшы мастак камбіната Ала ПІЎЧАНКА (злева) знаёміць з прадукцыяй нямецкіх спецыялістаў.

НА ЗНЕШНІ РЫНАК

## МУЗЫЧНЫЯ «ЛЯБЁДКІ»

Беласнежных лебядзеў напамінае новая прадукцыя Барысаўскай фабрыкі музычных інструментаў. Першая партыя піяніна маркі «Беларусь», выкананая ў стылі «рэтра», адпраўлена галандскай фірме «Піянафортэкс».

На міжнароднай выстаўцы ў Франкфурце-на-Майне прадстаўнікі «Піянінафортэкса» зацікавіліся нашымі серыйнымі вырабамі. І перш за ўсё іх падкупіла чысціня гучання інструмента. Пабываўшы на прадпрыемстве, галандцы прапанавалі: паспрабуйце зрабіць піяніна пад даўніну, белага колеру.

Барысаўскія майстры не толькі ўлічылі ўсе пажаданні заказчыкаў, але ўклалі ў работу немала сваёй фантазіі. Навінка настолькі спадабалася заказчыкам, што яны падпісалі кантракт на выраб пяці тысяч экземпляраў.

ПА ЗАКАЗУ АГРАПРОМА

## ДЛЯ ЗДАБЫТЧЫКАЎ САПРАПЕЛЯЎ

У рэспубліцы пашыраецца здабыча каштоўных угнаенняў — сапрапеляў. Каб дастаць іх з дна азёр, патрэбна спецыяльная тэхніка. Па заказу Дзяржаграпрома БССР калектыў праектна-канструктарскага бюро Галоўрэчфлоту ўзяўся распрацаваць праект баржы і грэйфернага земснарада для здабычы сапрапеляў з дна азёр. Да канца трэцяга квартала бягучага года праект баржы паступіць на Петрыкаўскі, а грэйфернага земснарада — на Рэчыцкі суднабудауніча-суднарамонтны заводы, дзе ў будучым годзе пачнецца выпуск гэтых транспартных адзінак. Яны будуць разборныя, што дазволіць перавозіць іх з аднаго возера на іншае.

Вызваленне дна вадаёмаў ад сапрапеляў палепшыць экалагічны баланс, дасць азёрам другое жыццё...

НОВЫЯ ТАВАРЫ

## СВЕЖЫЯ ПРАДУКТЫ З... КУФРА

Правілам «не кантаваць» пагрэбавалі спецыялісты Мінскага завода халадзільнікаў. «Паклаўшы» апарат на бок, яны атрымалі выраб з зусім новымі функцыянальнымі магчымасцямі. Першая тысяча новых маразільнікаў ёмістасцю 210 літраў, прававобразам якіх сталі дзедаўскія куфры і скрыні, ужо адпраўлена ў гандаль. Прадукты ў іх захоўваюцца на працягу года. Замест дзверцы — крышка, якая адчыняецца ўверх, што дае магчымасць больш поўна выкарыстоўваць аб'ём унутранай камеры. На заводзе гавораць, што ў маразільнік можна без цяжкасці ўціснуць свіную тушу.

Таму, натуральна, у першую чаргу новыя вырабы прыцягнуць увагу сельскіх жыхароў.

СУЧАСНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ

## НАДЗЕЙНЫЯ І ПРОСТЫЯ

Некалі трываласць мастоў пацвярджалі так: адкрываючы рух, ставілі пад пралёт канструктара, які ў літаральным сэнсе ўласнай галавой адказваў за дакладнасць разлікаў.

Любы са спецыялістаў Фаніпальскага завода жалезабетонных маставых канструкцый, што пад Мінскам, гатоў паўтарыць такое выпрабаванне. Тут асвоілі масавы выпуск бэлек з так званым змешаным арміраваннем. Навінкі значна больш трывалыя, чым вырабы ранейшай канструкцыі. Да таго ж арыгінальнае тэхнічнае вырашэнне дазваляе эканоміць метал, значна скарачаць працоўныя затраты пры ўзвядзенні мастоў і пуцеправодаў. Прадпрыемства пастаянна нарошчвае аб'ёмы такой прадукцыі. Значыць, масты будуць больш надзейнымі і даўгавечнымі.

БЕЗАДХОДНАЯ ТЭХНАЛОГІЯ

## КУДЫ ТРЭСКІ ЕДУЦЬ?

Рабочыя Івацэвіцкага лясгаса (Брэсцкая вобласць) жартуюць: калі мы сячом лес, то трэскі ў нас не ляцяць, а едуць. Едуць на прадпрыемствы, дзе з іх робяць вельмі патрэбную прадукцыю — драўнінна-валакністыя пліты.

Перайсці на безадходную тэхналогію нарыхтоўкі драўніны гаспадарцы дапамагла сучасная тэхніка, створаная вучонымі Беларускага тэхналагічнага інстытута ў кааперацыі з заводамі Дзяржаграпрома рэспублікі. Лясгасу трэскі прыносяць тысячы рублёў дадатковага прыбытку. Але галоўнае: шырэй выкарыстоўваючы замест натуральнай драўніны яе замяняльнікі, можна высякаць менш дрэў.

Малаадходныя тэхналогіі прымяняюцца таксама ў Пінскім, Бешанковіцкім, Слуцкім, Калінкавіцкім лясгасах. У цэлым па рэспубліцы яны дапамагаюць ужо сёння эканоміць да 40 працэнтаў лесу.

СЕРВІС

## ЗА ПАКУПКАЙ — У ДОМ ГАНДЛЮ

Першыя падзякі пакупнікоў з'явіліся ў кнізе водгукаў Дома гандлю, які адкрыўся ў Шчучыне. У двухпавярховым будынку, карысная плошча якога складае звыш дзвюх тысяч квадратных метраў, можна набыць многія прамысловыя тавары. У самы буйны ў горадзе гандлёвы цэнтр пераехаў універмаг, магазіны культтавараў і «Адзенне». А на іх ранейшых месцах пасля рэканструкцыі адкрыюцца магазіны «Дзіцячы свет», кулінарыя і кніжны.

Скаардынаваўшы свае планы з праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёна, кааператары Гродзеншчыны за апошнія некалькі год увялі ў строй каля 70 новых гандлёвых прадпрыемстваў. Сярод іх — універмаг ў Дзятлаве і вёсцы Верцялішкі Гродзенскага раёна, гандлёвыя комплексы ў некаторых калгасах. Паралельна ідзе рэканструкцыя дзеючых магазінаў, сталовых, павільёнаў.

ЖНІВО-88



Уборачнае поле ў калгасе «Ленінец» Баранавіцкага раёна склала сёлета 2 300 гектараў. Гарачая пара тут завяршаецца. Хутка прыйдуць камбайны і на 300-гектарнае поле грэчкі. Толькі ад продажу збожжа ў калгасе плануецца атрымаць чыстага прыбытку 850 тысяч рублёў. У дзяржаўны фонд гаспадарка паставіць яго 4 тысячы тон.
НА ЗДЫМКУ: на калгасным полі.

У ВЫХАДНЫ ДЗЕНЬ

## ЗАПРАШАЕ СТАРЫ ПАРК

Цікава праводзяць выхадныя дні жыхары Нясвіжа. У парк санаторыя ідуць сем'ямі. Гучыць музыка. Праводзяцца розныя гульні, віктарыны. Самадзейныя артысты раённага Дома культуры выступаюць з канцэртамі. Аматары патанцаваць могуць заказаць любімую мелодыю. Разгараюцца баталіі на шашачных і шахматных дошках. Нядаўна сваё майстэрства паказалі тут навучэнцы Ратамскай конна-спартыўнай школы.

Мадэльеры камбіната бытавога абслугоўвання ў выхадныя дні ў парку дэманструюць свае вырабы. Тут можна купіць абнову або зрабіць заказ на пашыў верхняга летняга адзення. Кулінары рэстарана «Нясвіж» даюць рэцэпты страў. Пасля такога адпачынку пачынаецца з добрым настроем і працоўны тыдзень.

КАНЦЭРТЫ ДРУЖБЫ

## «ВЫ ТАКІЯ ПРЫГОЖЫЯ!»

Так называецца песня, якую спецыяльна для гастролей у Савецкім Саюзе вывучыла на рускай мове дзевяцігадовая амерыканская школьніца Лаў Хьюіт — салістка аматарскага калектыву са штата Тэхас «Шоу Цім». Першы яго канцэрт прайшоў у Мінску ў Палацы культуры Мінскпрамбуда.

У праграму «Шоу Цім» увайшлі танцы і песні цэнтральнага Тэхаса, вядомыя джазавыя нумары 50—60-х гадоў, а таксама сучасныя музычныя кампазіцыі, якія выконваюць артысты-аматары ўсіх узростаў — ад 9 да 69 гадоў. На працягу пяці дзён канцэрты ансамбля праходзілі на розных сцэнічных пляцоўках сталіцы рэспублікі.

ГАСТРОЛІ

## У ГАСЦЯХ У СЯЛЬЧАН

Калектыў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа не абмяжоўваецца сцэнай Віцебска. Нядаўна ў Пастаўскім раёне завяршыўся фестываль тэатральнага мастацтва, які працягваўся цэлы тыдзень. Жыхары райцэнтра, пасёлкаў Варапаева, Лынтупы, працаўнікі калгаса імя Суворава з вялікай цікавасцю паглядзелі спектаклі коласаўцаў. Яны сустракаліся з галоўным рэжысёрам тэатра Валерыем Мазынскім, народным артыстам БССР Уладзімірам Куляшовым, іншымі акцёрамі.

УШАНОЎВАЮЦЬ ПЕСНЮ

## ГУЧАЎ «БРЭСЦКІ ВАЛЬС»

Упершыню «Брэсцкі вальс» прагучаў у ліпені 1958 года, калі горад над Бугам прымаў дарагіх гасцей — удзельнікаў вызвалення Савецкай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Музыку напісаў малады кампазітар Альфрэд Шутаў, а вершы — Барыс Захарычаў, франтавік, адзін з тых, хто навечна занесены ў спісы вызваліцеляў Брэста.

З таго часу вальс сотні разоў гучаў на канцэртных пляцоўках Беларусі, Расійскай Федэрацыі, Польскай Народнай Рэспублікі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі... Па традыцыі мелодыя выконваецца на выпускных вечарах вучняў і студэнтаў Прыбужжа. Песня неадночы транслiравалася Беларускім і Усесаюзным радыё, а абласное радыёвяшчанне ў свой час абрала музычны радок вальса сваімі пазыўнымі.

Аб гісторыі «Брэсцкага вальса», а таксама многіх іншых папулярных песень, напісаных заслужаным работнікам культуры БССР, кампазітарам Альфрэдам Шутавым, і ішла размова на аўтарскай сустрэчы, якая адбылася нядаўна на адкрытай эстрадзе ў гарадскім парку культуры і адпачынку Брэста. Вёў вечар сам кампазітар, а яго песні выконвалі члены клуба аматараў народнай песні, якім ён кіруе.

## ЖЫЦЦЁ ЎНОСІЦЬ КАРЭКТЫВЫ

# ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ САВЕТУ БЫЦЬ УЛАДАЙ

— Калі ў мяне ўзнікла праблема з жыллём, я звярнуўся ў гарком партыі, а не ў гарвыканком — так больш надзейна...

— Хто наш дэпутат? Уяўлення не маю...

— Не, я не ў курсе таго, якія пытанні абмяркоўваліся на апошняй сесіі абласнога Савета...

Я магла б прывесці яшчэ нямала аналагічных выказванняў, што сведчаць аб нізкім аўтарытэце органаў Савецкай улады. Экспрэс-апытанне, якое я правяла на вуліцах Мінска і Брэста, не пакінула ніякіх сумненняў: выбаршчыкі незадаволены дэпутатамі, дэпутаты не ўтойваюць, што за іх усё рашаюць выканкомы, а выканкомы прызнаюць, што рэальнай уладай яны на справе амаль не валодаюць. І нават яўныя перамены да лепшага, якія паявіліся ў апошнія два гады (новыя прынцыпы фарміравання бюджэту, права на выкарыстанне свабодных вытворчых магутнасцей прадпрыемстваў, стварэнне эканамічных упраўленняў пры выканкомах і г. д.), не робяць пакуль пагоды, бо, як адзінадушна адзначаюць усе, занадта шмат яшчэ трэба вырашыць праблем, аб якіх, у прыватнасці, гаварылася на нядаўняй партыйнай канферэнцыі.

— Мы ж, па сутнасці, нярэдка звычайныя прасіцелі, — гаварыла мне старшыня Жабінкаўскага райвыканкома (Брэсцкая вобласць) Валянціна Рай. — То няма грошай. То грошы ёсць, але не даюць пад іх матэрыяльных фондаў. То яшчэ што-небудзь... Могуць адмовіць нават у тым, што нам належыць па закону! А то і... падмануць. Вось і зараз мы вядзём самую сапраўдную барацьбу з Дзяржаграпромам Беларусі: ніяк не выдзеляць нам тыя 10 працэнтаў, што з'яўляецца вырашаным па закону адлічэннем з 30 мільёнаў рублёў, прызначаных на рэканструкцыю цукровага завода, які знаходзіцца на нашай тэрыторыі.

Магчыма, менавіта па гэтай прычыне многія свае рашэнні выканкомы прымаюць сумесна з партыйнымі органамі. Справа не толькі ў «двайным» кантролі, але і ў тым, што ў райкомах і гаркомах ёсць каму яго ажыццяўляць — у іх склад пакуль уваходзяць галіновыя (прамысловы, транспартны і г. д.) аддзелы; у выканкомах жа такія службы яшчэ толькі пачынаюць стварацца.

Зрэшты, пытанне размежавання функцый паміж савецкім і партыйным апаратамі немагчыма рашыць толькі метадам фарміравання штатаў. Зусім ясна, што пад размежаванне неабходна падвесці самую сур'ёзную юрыдычную базу. Яшчэ адзін пункт: наша псіхалагічная закамплексаванасць, прыхільнасць да стэрэатыпа. Адна дэталь: журн[illegible]ы свае артыкулы па г[illegible]дарчых праблемах і пісьмы, што прыходзяць у рэдакцыю, як правіла, перасылаюць не ў выканкомы, а ў партыйныя арганізацыі. Прывычка! Прычым—ужо на ўсіх узроўнях. Зусім нядаўна я была сведкай таго, як першы сакратар райкома партыі вёў перагаворы з кіраўнікамі плавальнага басейна аб неабходнасці перагледзець яўна завышаныя цэны на абанементы. У апраўданне растлумачыў мне: «Так хутчэй, гэта ж людзям патрэбна, якія нам звоняць, скардзяцца, просяць». Увага, клопат? Магчыма. Але яшчэ і цвёрдая ўпэўненасць, што выканкому не пад сілу аператыўна вырашыць нават такое невялікае пытанне. А заадно і дэманстрацыя ўласнай улады.

Даводзілася чуць і такую думку: перадаваць вядзенне ўсіх гаспадарчых спраў у кампетэнцыю Саветаў наогул не трэба. Чаму? Ды проста па прычыне непадрыхтаванасці дэпутатаў да іх рашэння.

Доля ісціны, заўважым, у гэтым сцверджанні ёсць. Перагарнуўшы ў Брэсцкім аблвыканкоме дакументы некалькіх абласных сесій, я заўважыла, што пытанняў к дакладчыкам часцей за ўсё не бывае, дапаўненняў і заўваг дэпутаты не выказваюць, ледзь не ўсе рашэнні прымаюцца без дыскусій і аднагалосна.

Ці ў адной некампетэнтнасці дэпутатаў справа? І адкуль ёй, уласна, узяцца, кампетэнтнасці, калі для выканання сваіх дэпутацкіх абавязкаў дэпутат павінен... адпрошвацца з асноўнай работы? Каб выканаць нават самы просты з наказаў выбаршчыкаў, трэба ўсё-такі ўнікнуць у праблему, сустрэцца з тымі, ад каго залежыць яе рашэнне.

— Даўно наспела патрэбнасць калі не ў «вызваленых дэпутатах», якія атрымліваюць у Савеце асноўную зарплату, то хаця б у афіцыйным прадастаўленні дэпутатам некалькіх дзён у месяц на дэпутацкую дзейнасць, — лічыць намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкома Іван Красіцкі. — І аб аплаце дэпутацкай працы абавязкова трэба падумаць, асабліва цяпер, калі ўся народная гаспадарка пераходзіць на самаакупнасць, і дэпутат, які вымушаны траціць час на грамадскія справы, будзе губляць у заработку. Да таго ж існуе яўная сацыяльная несправядлівасць: я, як дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, маю даплату 100 рублёў. А мае калегі больш «ніжэйшых рангаў» — не. Хіба гэта нармальна?..

Спісак прычын, па якіх Саветы не маюць належнага аўтарытэту, пакуль вельмі вялікі. Тут і тое, што, за рэдкім выключэннем, па-ранейшаму «выбіраюць» з аднаго кандыдата, прычым нярэдка падабранага «па разнарадцы» — пол, узрост, вытворчыя паказчыкі. І тое, што ўсе пытанні ставіць, вырашае, а затым і кантралюе выкананне не Савет народных дэпутатаў як выбарны орган, а яго выканаўчы камітэт. І тое, што працаваць Саветы лічаць за лепшае часам не з людзьмі, а з паперамі, колькасць якіх амаль не скарачаецца. І тое, што сотні і сотні разоў асмеяны і асуджаны бюракратызм, як і раней, жыве і квітнее...

Самае ж, на мой погляд, сумнае, што ўсе мы бачылі, як ады[illegible]іць рэальная ўлада ад Са[illegible], добра ведалі, што і хто перашкаджае зрабіць іх работу па-сапраўднаму эфектыўнай. Але ўпарта рабілі выгляд, што праблем няма.

Больш таго, нават сёння, калі з самых высокіх трыбун сказана аб неабходнасці адраджэння ўлады Саветаў, многія ўсё роўна аддаюць перавагу пазіцыі страуса, які ў складанай сітуацыі хавае галаву ў пясок. І хоць субяседнікаў па гэтай тэме ў мяне было дастаткова, але нямала было і адмаўленняў. Адзін «тэрмінова ад'язджаў», у другога «важны семінар», трэці быў проста «заняты». Чацвёрты ж сказаў прама: «Навошта мне гэта патрэбна? Я ж ведаю, чаго вы хочаце...»

— Усё правільна, — нявесела ўсміхаючыся, гаварыў мне пасля Іван Красіцкі.— З «жыццёвага пункту» гледжання сапраўды лепш памаўчаць... Бо — набалела. Да такой ступені, што патрэбна гранічная шчырасць. А на гэта не кожны з нас ужо здольны. З другога боку, хіба ўпершыню мы ставім пытанне аб павышэнні ролі Саветаў, хіба і раней не прымалі добрых дакументаў? Але аўтарытэт мясцовых органаў улады не рос, паколькі эканамічныя рычагі кіравання так і не былі перададзены ў іх рукі.

— Вы не верыце ў магчымасць пазітыўных перамен?

— Наадварот, веру. І нават ужо бачу іх: лягчэй стала ладзіць з кіраўніцтвам саюзных і рэспубліканскіх прадпрыемстваў, якія цяпер афіцыяльна падначалены і мясцовым Саветам; нам дадзена права кааперавацъ сродкі размешчаных на нашай тэрыторыі заводаў; мы самі цяпер плануем і вырабляем тавары народнага ўжытку... Адным словам, рух пачаўся. Цяпер галоўнае — не спыняцца, а зрабіць усё, выканаць рашэнні XIX партыйнай канферэнцыі і нарэшце злучыць гэтыя два, па сутнасці і непадзельныя паняцці — Саветы і ўлада.

**Наталля БУЛДЫК.**

---

САМАК[illegible]ЗАННЕ Ў СУЧАСНАЙ ШКОЛЕ

# «ПРЫМУСОЎКА» ЦІ ІНІЦЫЯТЫЎНАСЦЬ?

СУЧАСНАЯ школа, зрэшты, як і ўсё ў нашым грамадстве сёння, перабудоўваецца. А гэта значыць, што яна не толькі павінна вучыць, даваць веды, але і выхоўваць юнага грамадзяніна, чалавека пісьменнага, самастойнага, здольнага хутка і правільна рашаць складаныя задачы бурлівага жыцця. Таму перад савецкай школай пастаўлена задача больш настойліва і рашуча праводзіць меры па пераходу на самакіраванне.

Што ж такое самакіраванне ў нашай школе? Я спытаў пра гэта саміх школьнікаў—вучняў некалькіх мінскіх сярэдніх школ. Мураўёў Юра — вучань 6-га класа 138-й школы. Ён лічыць, што самакіраванне азначае поўную самастойнасць школьнікаў у вучобе і працы. І растлумачыў: вучоба—не прымусоўка, таму школьнікам трэба давяраць і адначасова патрабаваць, каб яны вучыліся добрасумленна. Вучні, якія займаюцца лепш, павінны быць добраахвотнымі памочнікамі настаўнікаў, як бы школьнымі кансультантамі. Юра Мураўёў прапанаваў настаўнікам раіцца з вучнямі і ў спрэчных пытаннях прымаць сумесныя рашэнні. Яшчэ ён хоча, каб была спецыяльная камісія з вучняў і настаўнікаў, якая праз галасаванне будзе правільна, а галоўнае, вельмі справядліва вырашаць усе праблемы з жыцця класа. Наш субяседнік упэўнены, што вось такое раўнапраўнае рашэнне ўсіх школьных спраў і ёсць самае важнае ў самакіраванні.Сапраўды, калі ты адчуваеш сябе дарослым, якому даверылі рашаць лёс класа або школы, дык ужо перастаеш дурэць, пачынаеш пра ўсё думаць загадзя. Так лічыць Юра, ды і многія іншыя яго сябры.

А вось думка другога майго субяседніка—Мішы Зубра, вучня 5-га класа. Ён гаворыць: важна, каб самі дзеці адказвалі за парадак і чысціню ў школе, каб гэта было не на словах, а на справе. Ён лічыць, што нават уключаць званок, мыць вестыбюль павінны самі дзеці. Яны гаспадары школы, значыць, могуць шмат зрабіць сваімі сіламі. Былі ў мяне яшчэ гутаркі з дзецьмі. Коля Баброў, вучань 5-га класа гэтай жа школы, шасцікласніцы Оля Глушыцкая і Люда Церлюкевіч,



вучань 7-га класа Сяржа Молчан хочуць, каб школьнікі большасцю галасоў пры дапамозе дарослых вырашалі, чым ім займацца на ўроках працы і каб тое, што яны выпілоўваюць, шыюць, вяжуць, было і дзецям карысна, і школе прыносіла прыбытак. Як бачым, навучэнцы імкнуцца перавесці самакіраванне на сапраўдны гаспадарчы разлік, як на заводзе або ў кааператыве. Што ж, шмат я пачуў слушных прапаноў, але галоўнае ў тым, што дзеці хочуць адказваць за сваю школу, за свае ўчынкі. Гэта і ёсць першыя крокі самакіравання. Што трэба зрабіць, каб не на словах, а на справе ўвасобіць у жыццё школьнае самакіраванане?

Каб адказаць на гэтае пытанне, я пабываў у дзвюх мінскіх школах. Тут пануе атмасфера творчасці, але не застаецца без увагі і дысцыпліна. Усе добрыя пачынанні падтрымліваюцца жыва, без фармальнага падыходу. Не выпадкова, калі паўстае пытанне пра традыцыйны для савецкіх школьнікаў збор макулатуры або жалезнага лому, у гэтай справе ўдзельнічаюць, па падліках, амаль усе. І не па прымусу, як гэта яшчэ нярэдка бывае, а па ўласнаму жаданню.

Трэба сказаць, што і ў 24-й школе, і ў 37-й ужо даўно дырэктары і настаўнікі не ўмешваюцца ў падобныя справы, але памагаюць арганізаваць кантроль і ацэнку ўсёй выкананай выхаванцамі работы.

Але самакіраванне—гэта не толькі добрасумленная праца па збору другаснай сыравіны. Сёння ў БССР налічваецца больш за 2,7 тысячы вучнёўскіх брыгад, у якіх працуюць амаль 170 тысяч школьнікаў. Гэта ўжо не збор макулатуры і металалому, а сапраўдная вытворчая праца, прыбытак ад якой складае некалькі мільёнаў рублёў. Разам з заводамі, будаўнічымі трэстамі, лясніцтвамі брыгады самі ўдзельнічаюць у састаўленні плана работы. Тут кожны вучань мае памятку, бо ён цяпер рабочы, меліяратар, жывёлавод, служачы. Усё гэта абавязвае працаваць з поўнай аддачай, адчуваць сябе сапраўдным гаспадаром даручанай справы. Ёсць такія вытворчыя школьныя брыгады ў сельскіх раёнах—Камянецкім, Глыбоцкім, Брэсцкім, Мінскім і іншых. У канцы працоўнага сезона, як правіла, падводзяцца вынікі работы, прэміруюцца пераможцы. Гэта стала звычайным школьным жыццём.

А што ж робіцца ў справе самакіравання ў самой школе? Трэба сказаць, што ўсё цяжка нават пералічыць. Гэта адкрыццё новых клубаў, факультатываў па розных цікавых напрамках навукі, мастацтву, літаратуры, нарэшце, стварэнне новай вучэбнай арганізацыі—вучэбных камітэтаў, або карацей—вучкомаў. З гутаркі з Людмілай Маторай, адным з камсамольскіх кіраўнікоў горада, яшчэ нядаўна настаўніцай матэматыкі, стала ясна: вучком—эфектыўны сродак самакіравання ў школе. Арганізацыя даволі-такі простая: прадстаўнікі кожнага класа ўваходзяць у савет вучкома. Адзінае рашэнне прымаецца ім адкрыта і публічна. Вучкомы напамінаюць прафсаюзную арганізацыю юных грамадзян у сценах сярэдняй школы.

У канцы навучальнага года вучком аналізуе вынікі і падказвае кожнаму вучню, на што трэба звярнуць увагу ў яго школьным жыцці. Вельмі важна, што гэта робіць не дырэктар і настаўнікі—людзі старэйшых пакаленняў, а равеснікі. Самі вучні лічаць, што больш дзейсна, калі крытыкуюць свае таварышы па школе. Адначасова выхоўваецца павага да думкі калектыву, заўваг такіх жа, як ты, рабят.

**Сяргей АНУПРЫЕНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: трэцякласнікі школы № 9 горада Брэста ў кабінеце вылічальнай тэхнікі.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

# ВЕДАЦЬ ПРАЎДУ

Добры дзень, дарагія сябры!

Вялікае вам дзякуй, што не забываеце мяне. Тыя матэрыялы, якія вы прыслалі, вельмі дапамаглі ў арганізацыі вечара нашага таварыства «Італія — СССР». Я расказала нашым удзельнікам пра стэпавую зону Савецкага Саюза і пра тайгу. Усе слухалі з вялікай цікавасцю, таму што многія ведаюць пра Маскву, Ленінград, Кіеў, Мінск, а вось пра Сібір, стэп, пустыню і тайгу — не.

Хачу прыняць удзел у размове аб дэмакратыі, якая вядзецца на старонках вашай газеты. Тут, у Італіі, мне часта даводзіцца спрачацца з людзьмі па гэтай праблеме. Справа ў тым, што зараз, калі ў нас на Радзіме адбываюцца такія вялікія змены, пра гэта сталі шмат пісаць і гаварыць сродкі масавай інфармацыі. Цяпер два-тры разы ў месяц па тэлебачанні паказваюць перадачы аб Савецкім Саюзе. Вось нядаўна бачыла наш дарагі Мінск. Рабіў рэпартаж італьянскі журналіст. Па-мойму, ён не вельмі разумны чалавек, таму што задаваў людзям бязглуздыя пытанні. А вось аб тым, што горад быў поўнасцю разбураны, што ў ім загінулі дзесяткі тысяч людзей, што ўсё давялося адбудоўваць зноў, сказаць забыўся. Або проста не захацеў. Тут заўсёды так: гавораць толькі пра тое, што ім выгадна. Напрыклад, зараз італьянцаў стараюцца пераканаць, што сацыялізм на нашай Радзіме сябе не апраўдаў і таму вы перабудоўваеце сваё грамадства па ўзору заходняй дэмакратыі.

Мяне такія размовы проста абражаюць. Вядома, былі памылкі і недахопы. Зараз пра іх шмат гавораць і іх выпраўляюць. Але ж нельга адмаўляць, што менавіта Савецкая ўлада так многа дала нашаму народу. На жаль, нават у нас на Радзіме яшчэ не ўсе людзі гэта разумеюць. Узяць хаця б нядаўнія падзеі ў Арменіі і Азербайджане. Калі б не Савецкая ўлада, у армян не было б сваёй рэспублікі. Няўжо яны пра гэта забыліся? Па-мойму, яны не так зразумелі дэмакратызацыю грамадства і сталі проста цацкай у руках людзей, якім выгадныя беспарадкі. Відаць, гэта таму, што яны не жылі так, як жывуць многія людзі ў капіталістычных краінах — без кватэры, без работы, без хлеба. Яны не ведаюць такога жаху, як беспрацоўе, якое пастаянна расце ў капіталістычных краінах. З-за яго ў многіх маладых людзей проста няма будучыні. Вось таму савецкім людзям трэба больш ведаць пра жыццё за рубяжом: калі жывеш сумленна, то ніколі не разбагацееш. Дзякуй яшчэ, што ёсць работа, гэта самае галоўнае. А праблем і клопатаў у простага працоўнага вельмі шмат. І жывеш у пастаянным страху, што работу можаш страціць і тады будзеш нікому не патрэбны. А калі захварэеш? Каб трапіць у недарагую бальніцу, трэба чакаць чаргі тры-чатыры месяцы. Мне самой давялося гэта перажыць, таму так добра ведаю.

Яшчэ тут вельмі хутка расце злачыннасць. Бандыты арудуюць усюды. Колькі яшчэ жахаў з нашага жыцця можна было б апісаць. Вось за апошнія тры месяцы толькі ў нашым горадзе памерла трыццаць наркаманаў ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў. Цяпер нават каля школ прадаюць наркотыкі дзецям. Дзеля грошай не грэбуюць нічым. Не мае значэння, што грошы гэтыя брудныя. Яны ж дапамагаюць адкупіцца ад паліцыі.

А што адбываецца ў нашым урадзе? Ужо больш за паўгода ніяк не могуць падзяліць партфелі. Увесь час выплываюць непрыглядныя гісторыі, у якіх замешаны члены ўрада. Вось такая ў нас тут дэмакратыя.

Цяпер я жыву чаканнем хуткай сустрэчы з Радзімай. Вельмі сумую па маёй роднай Беларусі, па яе цудоўных людзях. Яшчэ раз дзякую, што вы нас не забываеце. Калі б не ваша работа, клопат пра нас, нам было б яшчэ цяжэй жыць на чужыне.

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

# ПРАВЫ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ

Вашу газету чытаем з вялікай цікавасцю. Радуемся за вашы дасягненні і адначасова сумуем, калі трапляюцца артыкулы з расказамі аб гасцях з-за рубяжа. Як хацелася б і самім пабываць на Радзіме яшчэ раз, пабачыць сваякоў. Але, на жаль, здароўе не дазваляе. Застаецца ўспамінаць пра мінулыя паездкі і спадзявацца, што ўсё ж калі-небудзь удасца прыехаць. Гэта было б цікава зараз, калі на Радзіме адбываюцца такія вялікія перамены.

Хочам адзначыць: нягледзячы на тое, што ў Савецкім Саюзе зараз развіваецца публічнасць, сапраўдная дэмакратыя, розныя нападкі на вашу краіну ў буржуазнай прэсе не спыняюцца. Нашай Радзіме прад'яўляюць шмат надуманых прэтэнзій з прычыны правоў і свабод чалавека. Але радасна, што большасць народа ўжо не верыць гэтым выдумкам.

Кожны год тысячы людзей з усіх куткоў планеты наведваюць вашу краіну і сваімі вачыма бачаць, як жывуць савецкія людзі і якія маюць правы. Нам думаецца, што савецкі народ сам разбярэцца са сваімі правамі, а нашай прэсе лепш было б больш аддаваць увагі правам уласных грамадзян. Бо як жывуць простыя людзі ў такіх багатых краінах, як Канада і Злучаныя Штаты Амерыкі? Калі чалавек працуе і атрымлівае добрую зарплату, то і жыве добра. Ну, а калі работы няма? А беспрацоўных тут мільёны. Гэтыя людзі ніяк не могуць звесці канцы з канцамі. Ім літаральна штодзённа даводзіцца змагацца за ўласнае жыццё. Ужо адзін факт, што ў Савецкім Саюзе беспрацоўя даўно не існуе, вельмі многа гаворыць аб правах чалавека.

Праўда, трэба адзначыць, што наша краіна Канада даволі дэмакратычная. Беспрацоўным выдаюць грашовую дапамогу. Хаця яна і невялікая, але ўсё ж падтрымка ёсць. Рабочыя ў нас карыстаюцца ўсімі тымі правамі, што і астатнія грамадзяне Канады. Яны маюць права на забастоўкі за павышэнне зарплаты і лепшыя ўмовы працы. Але і фабрыканты маюць права наймаць штрэйкбрэхераў і выклікаць паліцыю. У 65 гадоў усе канадскія грамадзяне атрымліваюць пенсію па старасці. Трэба сказаць, што становішча працоўных намнога палепшылася ў параўнанні з тым, што было ў 30-я гады, калі мы прыехалі ў Канаду. Але ж і ў нас на Радзіме жыццё людзей стала намнога лепшым. Так што, хочам паўтарыць: людзі ведаюць праўду і не асабліва вераць розным выдумкам пра Савецкі Саюз.

**Уладзімір ХІЛЬЧУК.**

Канада.

# НЕ ПАЎТАРАЦЬ ПАМЫЛАК

Я ад усёй душы ўдзячны вам за тыя газеты, што вы мне прысылаеце. Кожны нумар прачытваю з вялікай цікавасцю, а некаторыя матэрыялы і не па аднаму разу.

Хачу адзначыць, што мы, зарубежныя суайчыннікі, усім сэрцам вітаем і падтрымліваем рэвалюцыйныя пераўтварэнні, якія адбываюцца на Радзіме, курс партыі на дэмакратызацыю і публічнасць. Артыкулы, якія вы зараз друкуеце, вучаць нас і дазваляюць зразумець тыя памылкі, якія, на жаль, мелі месца ў гісторыі нашай Радзімы. Дзякуючы публічнасці і перабудове, цяпер пра іх смела пішуць, і гэта дае падставу спадзявацца, што больш падобных памылак не будзе. Горка чытаць пра сталінскія часы. Сталін стварыў сваю мадэль сацыялізму, у якой мала што засталося ад ленінскіх прынцыпаў. Гэта была памылка, як былі памылкамі татальная цэнтралізацыя ўлады, адміністрацыйна-камандныя метады кіраўніцтва з тэрорам, масавымі рэпрэсіямі, лагерамі. Пра гэта абавязкова трэба пісаць і гаварыць. Я рады, што смелыя людзі, прыхільнікі перабудовы, пачалі працэс рашучай дэсталінізацыі. На «Англійскай старонцы» вашай газеты я прачытаў аб «справе ўрачоў». Гэтага мы ніколі не ўбачылі б на старонках «Голасу Радзімы» да перабудовы, бо аб памылках тады ніхто не адважваўся пісаць. Вялікае дзякуй вам і перабудове.

Цяпер, калі чытаю вашу газету, адчуваю, якім цікавым жыццём жыве савецкі народ. У вас многа разнастайных спраў, трэба шмат і напружана працаваць, каб вывесці краіну на передавыя рубяжы ва ўсіх галінах эканомікі, навукі і тэхнікі. Але мяне вельмі радуе, што савецкія людзі не жывуць толькі сённяшнім днём, а думаюць і пра будучых пакаленні. Я маю на ўвазе адносіны да прыроды, да навакольнага асяроддзя. Гэта таксама прыкмета дэмакратызацыі. Артыкул Г. Братко пра беларускае Палессе вельмі мяне ўсхваляваў. Аўтар піша, што меліяратар часта дзейнічае ў гэтых краях не як ашчадны гаспадар, якому жыць тут і жыць, а як бяздумны арандатар, для якога важна сёння атрымаць больш, а заўтра хоць патоп згодны з аўтарам артыкула, што так працаваць больш нельга. Шчыра жадаю, каб Палессе цудоўна расквітнела для дзяцей і ўнукаў.

Гэта ўсё непрыемныя моманты. Але я хачу асабліва падкрэсліць: мы добра разумеем, што ўсе гэтыя артыкулы пішуцца не для таго, каб надаць газетам сенсацыйнасць, заінтрыгаваць чытача. Гэта ўклад прэсы ў справу перабудовы, дэмакратызацыі і публічнасці. На памылках трэба вучыцца. І каб не паўтараць, іх трэба ведаць.

Хачу напісаць яшчэ некалькі радкоў вось пра што. У апошні час у Аўстраліі ўсё больш цікавяцца вашым жыццём, міралюбівай палітыкай, перабудовай. Але ёсць яшчэ і ворагі Савецкага Саюза, якія імкнуцца абылгаць і ачарніць нашу Радзіму. Напрыклад, да нас у Перт прыязджаў савецкі цырк. Па тэлебачанні паведамілі, што гэта самы лепшы цырк у свеце. Такая падзея выклікала вялікую цікавасць, і людзі пісалі ў мясцовую газету пісьмы, пыталіся, ці добрую ежу атрымліваюць жывёліны, ці не пашкодзіць ім гарачыня і г. д. На гэта газета адказала, што можа быць упэўнены, што звяры ў Маскоўскім цырку атрымліваюць лепшую ежу, лепшы догляд і маюць больш свабоды, чым тысячы зняволеных «Архіпелага ГУЛАГ». Якая зларадная! Падпісаў гэты адказ нехта Далега. Не ведаю гэтага Далегу, але прозвішча быццам бы славянскае, мае адзін корань з польскім словам, якое азначае хварэць, мучыць, нервавацца. Відаць, Далега хварэе. Яго мучыць і непакоіць, што ў Заходняй Аўстраліі кожны хацеў убачыць савецкі цырк, што паміж СССР і Аўстраліяй наладжваюцца культурныя абмен і добрыя адносіны.

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.



Родныя мясціны.

Фота В. ЧУМАКОВА.

# ДАТЫЧЫЦЬ КОЖНАГА

У вашай газеце вы даволі часта публікуеце пісьмы чытачоў аб дэмакратыі і правах чалавека. Гэтыя пытанні датычаць кожнага, і гаварыць пра іх можна шмат. Але я не буду паўтараць тое, што ўжо напісана іншымі, толькі дадам пару слоў ад сябе. І ў нас у краіне, як і ў іншых капіталістычных краінах, нярэдка шумяць з прычыны правоў чалавека ў сацыялістычным лагеры. А што робіцца ў саміх? У Аргенціне ўжо доўгі час няма палітычнай стабільнасці. Гэта адбіваецца на ўсім нашым жыцці. Расце інфляцыя, цэны, рабочыя і служачыя бастуюць. Раздолле толькі злодзеям і спекулянтам. Вельмі шмат беспрацоўных, многія сем'і жывуць надгаладзь. Значна вырасла злачыннасць, часта сталі рабаваць пасажыраў у паяздах метро. Вось нядаўна і мяне абрабавалі. Ноччу выламалі дзверы ў дом і вынеслі ўсе больш-менш каштоўныя рэчы, амаль усё наша з жонкай адзенне. І яшчэ прыклад з майго жыцця. Пачаў у мяне псавацца зрок, а лячыцца цяжка. Дактары дарма не лечаць і лякарствы бясплатна не даюць.

**Антон МІШЧУК.**

Аргенціна.

# А РАБОЧЫМ НЕЛЬГА

Зараз усе абмяркоўваюць тэму дэмакратыі і правоў чалавека. У буржуазным грамадстве дэмакратыя вядомая. У нас у Ванкуверы, згодна буржуазнай статыстыцы, дваццаць чатыры працэнты маладых людзей беспрацоўныя, многія з іх яшчэ і бяздомныя. Начуюць яны, дзе давядзецца. Калі зімой быў моцны мароз, некаторыя царкоўныя арганізацыі былі вымушаны прасіць людзей, каб бяздомным дзе-небудзь арганізавалі начлег.

Барацьба паліцыі супраць злачыннасці беспаспяховая. Турмы перапоўнены. Але бандытызм не памяншаецца, а расце. Зараз людзі, калі сцямнее, баяцца выходзіць на вуліцу. Ды і днём рабуюць. Вось вам прыклад правоў чалавека.

І яшчэ адзін прыклад. Мы праводзім кампанію па збору сродкаў на нашу рабочую газету «Пасифик трибюн». Дык вось наш правінцыяльны ўрад прыслаў у рэдакцыю пісьмо, якое забараняе выпускаць латарэйныя білеты. Раней у такой латарэі рэдакцыя разыгрывала аўтамабіль і магла зарабіць грошы для выпуску газеты. Але цяпер прыгразілі, што калі латарэя будзе арганізавана, дык грошы і білеты будуць канфіскаваны, а рэдактара арыштуюць і пасадзяць у турму. Розныя буржуазныя арганізацыі беспярэпынна праводзяць усялякія латарэі для сваіх мэт, а рабочай газеце нельга. Дык для каго дэмакратыя і правы чалавека?

З гэтай прычыны можна было б шмат пісаць, але вашы чытачы, што жывуць у капіталістычных краінах, і самі ўсё добра ведаюць. А савецкія людзі могуць ганарыцца і радавацца, што такія «правы» і «свабоды» ім невядомы.

Вельмі хацелася б наведаць вас і Радзіму, але, перарабіўшы прымаўку, можна сказаць: хацела б душа ў рай, ды хваробы не пускаюць.

Жадаем вам поспехаў у справе дэмакратызацыі, публічнасці і перабудовы.

**Уладзімір ГАЎРЫЦКІ.**

Канада.

*ВРЕМЯ БОЛЬШИХ ПЕРЕМЕН*

# ОБНОВЛЕНИЕ

## ЗАМЕТКИ ИСТОРИКА НА ПОЛЯХ БРОШЮРЫ С МАТЕРИАЛАМИ XIX ПАРТКОНФЕРЕНЦИИ

### I.

Исторический масштаб XIX Всесоюзной партконференции определяется прежде всего принятыми ею решениями. Главное из них связано с реформой политической системы. Реализовав из ленинского политического завещания то, что было предметом особой, безмерно угнетавшей душу Ленина в последние годы жизни заботы, конференция развила идеи, сформулированные в последних ленинских письмах и статьях, в соответствии с требованиями нашего времени.

***

Почему только сегодня, через три года перестройки, вопрос реформы политической системы был поставлен ребром? Да потому, что и партия, и общество к апрелю 1985 года еще не были к ней готовы. Говоря о партии, выражу убеждение вот какого рода: исторические решения партконференции — заслуга здорового ядра КПСС, прежде всего ее руководства, разработавшего принципы перестройки, и в том числе перестройки самой партии. Это ядро в критически важный момент сумело повести за собой абсолютное большинство нынешнего партийного актива, среди которого, сознаемся, немало людей, психологически с трудом приемлющих реформу.

Что касается главного в этой реформе, разграничения функций партии и государства, не стоит представлять дело более простым, чем оно, очевидно, будет. Рассчитывать на то, что партийная бюрократия с легкостью необыкновенной откажется от власти, от привычки командовать всем и вся, было бы неразумно. Разграничение функций осуществится не столько по субъективным, сколько по объективным причинам, которые просто не позволят партийному механизму функционировать по-прежнему. Сокращенный и перешедший на новую структуру, лишившийся отраслевых отделов, партийный аппарат объективно будет вынужден заниматься тем, к чему он призван новым положением партии, ее действительно основными функциями.

Три года назад к реформе политической системы не было готово и общество в целом, десятилетиями приучавшееся делать все не просто под руководством, но по прямому указанию партии. Руководство общественными делами за партией останется, а вот время прямых указаний кончилось. Всем нам придется учиться действовать не дожидаясь команд, инициативно, творчески, — в соответствии с требованиями жизни.

***

Реформа политической системы приведет к весьма благоприятным изменениям статуса нашего государства, несущего на себе тяжелейшие последствия периода культа личности.

Культ этот, глубоко антигуманный и антидемократичный, вырос в конкретных исторических условиях. Напомню вот о какой их особенности: в октябре 1917 года российская революция заменила диктатуру буржуазии диктатурой пролетариата, видя в ней орудие строительства социалистического государства.

Шаг этот действительно был необходимым и неизбежным, однако рассчитанным на определенный срок—на период подавления классовых врагов. В Советской России этот процесс объективно завершился к концу периода гражданской войны, в начале 20-х годов. С этого момента государство, по мысли Маркса, как таковое перестает существовать, то есть оно, будучи теперь «полугосударством», должно было бы начать отмирать.

Нужно думать, развитие событий и процессов активно шло бы именно в этом направлении, оставайся у руля политического руководства молодой страны Владимир Ленин, в понимании которого главным в диктатуре пролетариата было не насилие, а организаторская и воспитательная функция. Но в 1922 году Ленин тяжело заболел, в январе 1924-го скончался. Его место занял Сталин. Он-то и превратил государство в основное орудие «строительства» социализма в СССР. В теории, да и на практике при нем возобладал подход к государству как раз в «полном», то есть старом смысле этого понятия. Государственное регулирование было распространено на непомерно широкую сферу общественной деятельности. Срок осуществления «диктатуры пролетариата» неправомерно продлился. Но это уже была не диктатура пролетариата, а диктатура бюрократии, осуществлявшаяся при опоре на незрелый пролетариат, в основном только что формирующийся из вчерашней деревенской бедноты (полупролетариев), а частью и благополучно избежавших коллективизации других слоев крестьянства, включая кулаков.

Первые победоносные пролетарские революции, замечу здесь же, отменили частную собственность на средства производства, превратили эти средства в государственную собственность, нареченную «общенародной». Негативные последствия этой крупной ошибки буквально неисчислимы и пока-что трудно исправимы. Дело в том, что государственная собственность на деле не есть общенародная. Она—материальная база бюрократии, фактически ею распоряжающейся. Руководящая сила Советского государства, Коммунистическая партия, в тех условиях стала во многом бюрократической.

***

Альтернативой такому развитию был ленинский кооперативный план, его идея о поголовном кооперировании всего населения во всех сферах жизни общества, начиная с производства, кончая сервисом, наукой, культурой, искусством и т. п. Средства производства по этому плану следовало сделать общенародной собственностью, передаваемой частями кооперативам в аренду. За государством должно было оставаться лишь планирование народного хозяйства, оборонительные и внешнеполитические функции, а также забота о народном здравии и образовании, социальном обеспечении. Ни о какой диктатуре какого-либо класса не могло быть и речи после того, как были решены задачи ликвидации власти и сопротивления свергнутого класса.

Отсутствие государственной собственности на основные средства производства воспрепятствовало бы формированию такого мощн[illegible] многомиллионного класса бюрократии, [illegible]рый мы сегодня имеем. Демократия стала бы фактом действительности. Ибо только производственная демократия в состоянии повлечь за собой подлинную демократию во всех других сферах жизни общества.

***

Ста[illegible] и его последователи не смогли понят[illegible]ти перехода из одной полосы развития в другую, начатую победой социалистической революции в октябре 1917 года. Если до революции партия и руководимый ею пролетариат были ориентированы на революционное насилие (без него немыслимо было свержение власти буржуазии), то после революции нужда в нем все более и более отпадала. Ленин это понял уже в борьбе с «левым коммунизмом» Бухарина и его группы, требовавшей во внутренней политике продолжать «красногвардейскую атаку» на капитал, а во внешней — вести революционную войну против империализма, несмотря на крайнее истощение всех сил общества. Ленин говорил: «Вчера гвоздем текущего момента было то, чтобы как можно решительнее национализировать, конфисковать, бить и добивать буржуазию, ломать саботаж. Сегодня только слепые не видят, что мы больше нанационализировали, наконфисковали, набили и наломали, чем успели подсчитать». Преодолев сопротивление «левокоммунистической» оппозиции и прочих «левaков», советское общество уже в 1918 году перешло к «новому фазису борьбы с буржуазией» (В. И. Ленин), к началам той экономической политики, которая потом получила название новой экономической политики (НЭП). Но начавшаяся вскоре гражданская война и иностранная интервенция пресекли дальнейшее ее проведение в жизнь. К этой политике, однако, партия вернулась сразу после окончания гражданской войны.

Трудность перехода от периода «военного коммунизма» к периоду социалистического строительства состояла в сокращении роли насилия в управлении обществом. (Логическим завершением этого процесса должен был стать полный отказ от насилия.) На решение этой проблемы были направлены громадные усилия партии и в профсоюзной дискуссии 1920—1921 годов, навязанной Троцким, и в принятии НЭПа, и во всем ленинском плане строительства социализма. Но все достигнутое на этом пути было перечеркнуто Сталиным и его «соратниками».

Историческая XIX Всесоюзная партконференция решением о реформе политической системы связала нити, оборванные Сталиным. Прекращение действия командно-бюрократических методов управления обществом перестает быть благим пожеланием. В качестве критерия и нормы жизни в СССР утверждается ленинская модель социализма.

**Агдас БУРГАНОВ, профессор.**
(АПН).

---

**СОВЕТСКАЯ ИСТОРИЧЕСКАЯ НАУКА**

**На протяжении двух десятилетий имя историка Роя Медведева упоминалось в основном на Западе—именно там, а не в СССР опубликованы его книги, посвященные различным периодам советской истории, деятельности Сталина, Хрущева.**

**В последнее время ситуация меняется: Медведев был гостем популярной в Советском Союзе телевизионной передачи; выдержки из его книги о Хрущеве печатаются еженедельником «Аргументы и факты»; интервью Медведева появляются в советских газетах. Редакция «Дружбы народов» предложила Медведеву опубликовать в этом журнале книгу «К суду истории». Для Агентства печати Новости готовится его книга «Политический портрет Л. И. Брежнева».**

**О нынешнем состоянии исторической науки в СССР с Роем МЕДВЕДЕВЫМ беседует Евгений ГОНТМАХЕР.**

# ПЕРЕСТРОЙКА ВСЕ ЕЩЕ ВПЕРЕДИ?

*— В какой мере перестройка коснулась сферы вашей деятельности?*

— За предыдущие шестьдесят лет в истории и философии — а это и есть область моих непосредственных интересов, — как, впрочем, и в экономической науке, социологии, политологии, не было такого быстрого продвижения, как за последние год-полтора. Появилось огромное количество свежих фактов, примеров, концепций. Это впечатляющее движение вперед продолжается: в каждом номере газет, журналов публикуются новые идеи, новые предложения, меняющие взгляды на наше общество, опрокидывающие очередные догмы, дающие новое представление о прошлом — как советском, так и дореволюционном. Происходит огромный культурный сдвиг, в хорошем смысле этого слова — культурн[illegible] революция, которая интенси[illegible]развивается.

*— Неужели все идет настолько хорошо, что не осталось никаких объективных и субъективных препятствий, сдерживающих ход перестройки в обществоведении?*

— По[illegible]й, тут придется оговори[illegible]т что: все сказанное выше не относится к сфере официальной науки. В журналах «Вопросы философии», «Вопросы новой и новейшей истории», «Вопросы истории СССР» и сегодня мало что изменилось. Развитие общественных наук идет прежде всего через публицистику, журналистику, художественные произведения. Но, увы, практически без участия профессиональных историков.

Исключение — деятельность Историко-архивного института. Но то, что именно он стал неформальным центром исторической науки, — нездоровое явление. Это все-таки не основная, а боковая ветвь этой дисциплины. А где же Институт истории СССР Академии наук, исторический факультет МГУ? Официальная историческая, философская, экономическая науки оказались не готовыми, не подготовленными к той культурной революции, которая происходит в нашей стране.

Это связано со многими причинами. Но главная из них — организация советской науки как бюрократического учреждения, в котором звания, должности и награды имеют гораздо большее значение, чем реальный вклад в науку... Повторяется то, что давно наблюдается в области изобретательства, — люди, которые делают предложения с возможными миллиардными выгодами обществу, десятилетиями не могут их реализовать из-за сопротивления официальных научных учреждений. Если вернуться к положению в исторической науке, то с сожалением можно констатировать, что ни один из академиков, за исключением разве что Александра Самсонова, не включился в процесс ее перестройки. Большинство же других специалистов эту перестройку тормозят.

Отчасти их можно понять. Представим себе академика, который в течение двадцати лет работал по теме «научная организация общества». В своих монографиях он доказывал, что советское общество построено на строго научных принципах и все в нашей стране делается наилучшим образом. Решения апреля 1985 года, XXVII съезда и последующих пленумов ЦК партии, XIX партконференции, наконец, подтвердили, что это совсем не так, что нам нужно учиться перестраивать жизнь общества на научных основах.

Спрашивается, что делать такому ученому? Книги его уже никому не нужны, чего-нибудь нового он, будучи уже в преклонном возрасте, создать не может. Здесь — естественные корни его личного сопротивления перестройке, надежд на возвращение к прежним временам и догмам...

*— А как же молодая научная поросль?*

— Возникло противоречие между научной молодежью и руководителями официальной науки. Основной поток научных идей, который выходит сейчас на страницы толстых литературных журналов, исходит от тех, кто занимает низшие ступени в иерархии — кандидатов наук, просто неостепененных специалистов, чьи имена были еще пару лет назад неизвестны, а ныне у всех на устах. Может быть, люди эти и не во всем правы, но они—авторы оригинальных концепций, новых предложений.

*— Что, по-вашему, надо предпринять, чтобы перестройка пришла и в историческую науку?*

— В науке не должно быть ситуаций, когда одни ученые вершат судьбами других. Никакой административной власти в научных спорах, но — соревновательность идей, мнений, свобода творчества. Если в политике надо расширять то, что называют социалистическим плюрализмом, то в науке дискуссии должны стать абсолютно нормальным явлением. Необходимо обязательное существование параллельных школ, которые борются друг с другом, отстаивая свое мнение на конференциях, в публикациях. У нас же пока по каждому вопросу существует только один институт, один журнал, один лидер.

Может быть, и не сразу, постепенно, но надо в корне изменить эту бюрократическую систему. Начать же нужно, если говорить по существу, с журналов и издательств — сделать их независимыми от тех или иных научных институтов и школ. У нас, например, журнал «Вопросы истории» подчиняется Институту истории АН СССР, журнал «Рабочий класс и современный мир» — Институту международного рабочего движения и т. д. Вместо этого в каждой отрасли знаний нужно бы иметь по меньшей мере два журнала, представляющих различные научные позиции. Без этого не обойтись, так как общественные науки, в том числе и история, должны сказать свое решающее слово в разворачивающемся процессе перестройки советского общества.

(АПН).

